Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД

Беларуская радыкальная тыднёвая часопіс.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 11 да 12 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: за 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1 мес.—75 гр.

Год I. Вільня, 12 сьнежня 1929 г. №. 1.



## Ад рэдакцыі.

Блізу поўная адсутнасьць беларускае прэсы, якая зьяўляецца вынікам зусім ненармальных варункаў жыцьця Заходняе Беларусі, а адначасна сьвядома фальшывае асьвятляньня нашых грамадзкіх адносінаў тымі газэтамі, што час-ад-часу прарываюцца праз усялякія „кардоны" і трапляюць у беларускую вёску,—прымушаюць нас зрабіць спробу згуртаваць усе жывыя беларускія сілы з радыкальнай ідэолёгіяй і стварыць часопісь, якая магла-бы здаволіць усё вастрэй і вастрэй адчуваную на вёсцы патрэбу мець праз друкаванае слова бесстароньняе і праўдзівае асьвятленьне нашага жыцьця. Гэткая часопісь, зусім натуральна, мусіць быць абаперта выключна на беларускіх інтэлектуальных і матэрыяльных сілах, бо ўсякае служэньне „чужым багам" скажае чыстасьць ідэолёгічнае лініі і, як мы гэта бачылі на чысьленых прыкладах, у канцы канцоў даводзіць да таго, што беларускімі рукамі робіцца цяжкая шкода беларускай справе.

Мы зьвярнуліся да цэлага раду беларускіх грамадзкіх дзеячоў і культурных работнікаў з просьбай прыняць чыннае ўчасьце ў выданьні нашае часопісі, дапамагаючы нам і літэратурнымі матэрыялямі і грашыма. Шляхам сталых месячных складак, якія нам дагэтуль задэкляраваны, аплата часткі коштаў друку ўжо забясьпечана. Рэшта мусіць быць пакрыта падпіскай, аплачываць якую нашы чытачы павінны акуратна, калі хочуць, каб часопісь выходзіла.

Разумеючы, якіх вялікіх коштаў будзе вымагаць сталае выданьне часопісі, мы абмежываемся невялікім фарматам яе і пастараемся выпускаць яе акуратна раз у тыдзень; але й гэта магчыма толькі дзякуючы бясплатнай працы нашых публіцыстаў, пісьменьнікаў, поэтаў, а так-жа й тэхнічных працаўнікоў адміністрацыі. З вялікім здаваленьнем адзначаем, што побач з старымі працаўнікамі на наш заклік горача адгукнулася наша студэнская моладзь — тая „новая зьмена", якая мусіць у хуткім часе папоўніць рады старэйшага актыўнага грамадзянства, з кожным годам усё болей цярэбленыя. У ладжаным гэтак шырокім грамадзкім супрацоўніцтве — гэткай свайго роду ідэйнай коопэрацыі — мусіць прыняць учасьце і нашая вёска, і нашае працоўнае места, прысылаючы карэспандэнцыі і прыцягваючы сталых падпісчыкаў.

Мы верым, што толькі пры такіх падставах арганізацыі часопісь нашая здолее утрымацца на даўжэйшы час, — ведама, паскольку гэта акажыцца магчымым пры сучасьных палітычных абставінах.

Пакуль-што абяцалі стала супрацоўнічаць у нашай часопісі наступныя асобы: *Марыя Зянюковая*, радны м. Вільні *Кузьма Крук*, *Антон Луцкевіч*, пасол латвійск. Сойму *Уладзімір Пігулеўскі*, *С. Сарока*, *Антон Трэпка*, *Язэп Шнаркевіч*

Прозьвішчы другіх будзем публікаваць у меру паступленьня ад іх адказаў на наш заклік.

**БАЦЬКІ! Не забывайцеся, што толькі да 31 сьнежня можна падаваць дэклярацыі аб беларускіх школах, калі хочаце іх мець на наступную восень.**

**Няхай кожын год чуваць будзе ваш моцны голас з дамаганьнем роднае школы.**

**Блянкі дэклярацыяў і інструкцыі можна дастаць у Т-ве Беларускае Школы у Вільні (Гданская вул. 1. кв. 5).**

## Наперад!

У цяжкую для беларускага руху часіну група радыкальнае беларускае інтэлігенцыі прыступае да выдаваньня сваей часопісі. Бо-ж часіна гэтая цяжкая падвойна: цяжкая яна і тут, пад Польшчай, і там — на Усходзе, у Радавай Беларусі.

Тут, у Заходняй Беларусі, з разгромам Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, бачым разваліваньне беларускае працы наагул — як палітычнае, так і культурнае. А ў Беларусі Усходняй адначасна адбываецца расправа з усімі тымі камуністамі-беларусамі, якія ў працягу дзесяцёх гадоў, паверыўшы, што Комінтэрн „надоўга і ўсур'ёз" пайшоў насустрэчу вызвольна-адраджэнскім імкненьням беларусаў, з напружаньнем усіх сваіх сілаў будавалі Беларускую Социялістычную Радавую Рэспубліку і беларускую культуру.

Ня будзем падрабязна затрымлівацца сяголеньня над сумнымі праявамі аслабленьня самадзейнасьці беларускіх сялянскіх і работніцкіх масаў пад Польшчай: яны ведамы кожнаму беларусу, незалежна ад таго, да якога палітычнага кірунку ён належыць, якія мае пагляды і перакананьні. Каб выйсьці з стану заняпаду, каб вярнуцца да актыўнае культурнае і арганізацыйнае працы, трэба перад усім ведаць, як і чаму сталася тое, што сягоньня сьцьвярджае з жалем кожны, у якім б'ецца запраўднае беларускае сэрца.

Ад самага пачатку беларускага адраджэнскага руху кіравала ім беларуская радыкальна настроеная інтэлігенцыя, якая гуртавалася ў радох Беларускае Соцыялістычнае Грамады. І ў тым, што іменна на долю соцыялістаў выпала пачэсная роля збудзіць з векавечнага сну прыспаныя беларускія працоўныя масы, няма нічога дзіўнага: бо-ж народ наш апынуўся адначасна ў падвойнай няволі — ня толькі нацыянальнай, але і соцыяльнай. Вось чаму наш адраджэнскі рух заўсёды йшоў пад чырвонымі сьцягамі; вось чаму іншыя кірункі беларускае нацыянальнае мысьлі ішлі ў хвасьце беларускага руху, не выяўляючы ніколі болей або меней паметнае сілы.

Выбары ў польскі Сойм у 1922 годзе, калі Цэнтральны Беларускі Выбарны Камітэт аб'яднаў усе актыўныя нацыянальныя сілы на груньце вельмі радыкальнае палітычна-соцыяльнае плятформы і дайшоў праз гэта бліскучае перамогі, — з аднаго боку, а пасьля — у 1926 годзе — бяспрыкладны ў гісторыі адраджэньня народаў рост Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады — з другога боку, — абедзьве гэтыя праявы беларускага адраджэнскага руху ў Заходняй Беларусі поўнасьцяй пацьвярджаюць вышэйсказанае. Але ў мамэнт выступленьня на палітычную арэну Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады адносіны ў нас былі ўжо значна іншыя, чым у мамэнт заснаваньня ў 1905 годзе папярэдніцы яе—Беларускае Соцыялістычнае Грамады: цяпер на абодвух флянгах яе істнуюць ужо новыя групы, якія на розны лад процістаўляюцца магутнаму масаваму радыкальнаму руху. Зьлева стаіць „чырвоны" інтэрнацыянал—камуністычная партыя; справа — інтэрнацыянал „чорны", у асобе клерыкальнае організацыі гэтак-званых „хрысьціянскіх дэмакратаў" (хадэкаў). Судовы працэс БСРГ выяўляе вельмі ярка імкненьне камуністычнае партыі ўзяць у свае рукі кіраўніцтва масавай організацыяй нацыянальна і соцыяльна сьвядомых беларускіх сялян і работнікаў, а разам з тым паказвае, якімі спосабамі баролася хадэцка-сельсаюзьніцкая прэса з ідэйнымі павадырамі грамадаўскага руху, ня цураючыся адкрытых даносаў на паасобных дзеячоў нямілага кірунку, каб толькі іх „унешкадлівіць", хоць-бы й пасадзіўшы іх на лаву падсудных у польскім судзе. Але побач з такімі мэтадамі—і „чырвоны", і „чорны" інтэрнацыяналы вялі барацьбу з радыкальным цячэньнем у беларускім руху і мэтадамі позытыўнае творчае працы: Камуністы стараліся пранікаць у беларускія культурныя ўстановы, блізкія па сваей ідэолёгіі да Грамады, каб, актыўна працуючы ў іх, надаваць ім сваю ідэйную ахварбоўку, ськіраваную да сусьветнае рэволюцыі і затым у істоце свае далёкую ад ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня; а „чорны" інтэрнацыянал, прадстаўлены „беларускімі" хадэкамі, пачаў з вялікай энэргіяй тварыць новыя культурныя ўстановы конкурэнцыйнага характару, прасякненыя духам клерыкалізму і ненавісьці да ўсякага поступу чалавечае мысьлі і свабоды духа. Калі-б судзіць паводле ліку культурна-асьветных установаў і часопісяў беларускіх за 1926 год, дык можна было-б сказаць, што год гэны быў годам найбольш інтэнсыўнае работы беларусаў на культурным і організацыйным груньце. Але, як толькі рукамі абшарніцкага заступніка, былага міністра судоў Мэйштовіча, была разгромлена Грамада, дык і „чырвоны" і „чорны" інтэрнацыяналы зразу-ж „ахаладзелі" да беларускае культурнае працы: камуністы, сярод якіх выявіўся наагул рэзкі палітычны паварот дзякуючы перамозе ў партыі Сталіна і вылучэньню з яе ўсіх запраўдных тварцоў соцыяльнае рэволюцыі ў Расеі, кінулі зусім ранейшую позытыўную працу і пачалі імкнуцца выключна да таго, каб на груньце масавым яго палажэньнем прыдбаць чым больш сяброў для

С. Сарока.

## Наперад!

Наперад! Наперад бяз спыну
І думкай, і сэрцам, і целам!
Наперад! хоць старасьць гнець сьпіну,
Каб вокал гудзела, сьвісьцела!
Наперад! з дагонам Пагоні,
Каб рэхам адгукнулісь гоні!!!

Наперад! — ідэяй адзінай
Хай будзе крыві і удыхаў!
Наперад ўсьцяж з кожнай гадзінай
І днямі, і ночкаю ціхай!
Наперад жаданьнем і сілай —
Спачын і затрым дасьць магіла!

Наперад! — жыцьцё перагонім
І творчаю мукай народзім
Прарыцара Крыўскай Пагоні,
Што збудзіць Наперад! ў народзе,
Распаную долю зварушыць,
Вяковы сон з цемраю скрушыць!

Наперад! Наперад бяз спыну
І думкай, і сэрцам, і целам,
Сагнуўшы, пакорную сьпіну,
Наперад! віхром звар'яцела!
Наперад больш працы і поту —
Мазольную скончым суботу.

# Палітычнае жыцьцё.

## Урадавы крызіс у Польшчы.

Польшча апынулася ў стане ўрадавага крызісу, гэта значыць, у нейкім пераходным стане — да часу стварэньня ў ёй новага ўраду.

Бо-ж урад прэмьера Сьвіталскага, які істнаваў дагэтуль падаўся ў адстаўку, якая прынята прэзыдэнтам Рэспублікі. Каб не пакінуць аднак-жа краю без кіраўніцтва, прэзыдэнт, як гэта робіцца ўсюды ў падобных выпадках, даручыў усім сябром габінэту (ураду) спаўняць свае абавязкі—да назначэньня новага ўраду.

Адстаўка ўраду Сьвітальскага зьявілася рэзультатам апошняга (6. XII) галасаваньне ў Сойме, які большасьцяй 246 галасоў проці 120 выразіў усяму ўраду свае недавер'е.

### Барацьба паміж Соймам і ўрадам.

Адстаўкай габінэту Сьвітальскага, за якім стаіць маршалак Пілсудскі, уваходзячы ў склад габінэту, як ваенны міністар, і фактычна дае апору ўсяму ўраду, які такой апоры ў парляманьце ня мае, закончылася на нейкі час тая зацятая барацьба, што ідзе паміж Соймам (больш сьціола: апазыцыйнай большасьцяй Сойму) і ўрадавымі групамі, згуртаванымі навакол марш. Пілсудскага. Барацьба гэтая, каротка кажучы, ідзе, як усялякая палітычная барацьба, — за ўладу ў дзяржаве.

Групы м. Пілсудскага, маючы фактычна ўсю ўладу ў краі, хочуць замацаваць яе і юрыдычна, а дзеля гэтага так зьмяніць канстытуцыю 17 марца, каб перавагу ў дзяржаве меў галава выканаўчай улады—прэзыдэнт Рэспублікі і яго ўрад.

Наадварот, Сойм, стоючы на груньце сучаснай констытуцыі і наагул на груньце дэмакратыі стаіць за перавагу парляманту, народнага прадстаўніцтва ў дзяржаўным жыцьці, дамагаючыся захаваць поўную кантролю і ўлады над урадам, які і створаны быў-бы Соймам, і адказным быў, перад Соймам.

Каротка кажучы, большасьць Сойму стаіць за так-званы „парлямантарызм“ (рашучую перавагу парляманту ў дзяржаве); урадавыя групы м. Пілсудскага яшчэ больш рашуча стаяць за абмежаваньне правоў парляманту — на карысьць выканаўчае ўлады—ўраду.

### Спробы стварэньня новага ўраду.

Зараз-жа пасьля прыняцьця Соймам формулы недавер'я ўраду, прэмьер паехаў да прэзыдэнта, якому і падаў прашэньне аб адстаўцы габінэту. Прэзыдэнт адстаўку прыняў, пакінуўшы, як сказана напачатку, усіх міністраў на мясцох—да стварэньня новага ўраду.

Але апошняя рэч—зусім не такая лёгкая, як гэта выглядала-б на першы пагляд.

Справа ў тым, што—паводле асноваў парлямэнтарызму—апазыцыя, якая мае лічбовую сілу ў парлямэнце, каб ськівуць урад, павінна мець рэальную сілу—і ня толькі ў парляманьце, але і ў краі,—каб стварыць самой новы ўрад.

І—трэба прызнаць—у гэтай галіне соймавая апазыцыя мае далёка ня ўсё ў парадку. У Сойме яна—даволі разьбітая на супярэчныя, калі часта не варожыя адна да адной фракцыі (клюбы); у краі апазыцыя—трэба прызнаць—мае наагул спагадаючыя сабе настроі. Але рэальная сіла гэтых апазыцыйна настроеных да ўраду розных групаў і партыяў у краі — так сама разьбіта, неарганізаваныя і варожа адна да другіх настроеныя, як і ў Сойме. Усё гэта робіць Соймавую апазыцыю фактычна няздольнай да стварэньня рэальна-ўрадуючага ў краі габінэту. Гэта, здаецца, і мае далейшай сваей тактыкай выявіць перад усім краем і перад усім сьветам „лагер Марш. Пілсудскага“.

Так прынамся можна думаць з першага кроку п. Прэзыдэнта, які распачаў рад канфэрэнцыяў з павадырамі соймавай апазыцыі—ў справе стварэньня новага ўраду...

---

### Ваенны канфлікт паміж Кітаем і Радамі.

На першым мейсцы ў сьцягу бягучых падзей, прыкоўваючых увагу ўсяго сьвету, стаіць бязумоўна ваенны канфлікт паміж Радамі і Кітаем.

Канфлікт быццам стаў на шлях рашучай ліквідацыі. Бо-ж — пасьля канчальнага разгрому 60 тысячнае кітайскае арміі параўнальна нязначнымі сіламі наступаўшага на Харбін перадавога атраду радавых войск, галава Мукдэнскага ўраду Чанг-Су-Лянг (сын ведамага Чанг-Тсо-Ліна) адразу папрасіў пардону. Тады радавы ўрад стрымаў наступленьне, заявіўшы, што безадкладна дасьць загад сваей арміі пакінуць тэрыторыю Манджуры, калі атрымае ад Мукдэну на пісьме абяцаньне выпаўніць тыя варункі, якія Рады ставілі ў сваім жніўневым ультыматуме. 3б мест гэтых дамаганьняў з боку ССРР датычыў, як ведама, узнаўленьня сілы ўмовы радава-кітайскай з 1924 г., забясьпечываючай уплыў і інтарэсы Радаў у Манджурыі і ў частцы—на Усх.-Кітайскай чугунцы. З прычыны нарушэньня Кітаем гэтай умовы, як ведама, і ўзьняўся ўвесь ваенны канфлікт.

Мукдэнскі ўрад даў пісьменную згоду на дамаганьні Радаў, і паўнамочнікі абодвых урадаў, Радавага і Мукдэнскага, ужо спаткаліся і падпісалі ўступны пратакол, за якім маюць безадкладна распачацца фармальныя перагаворы.

Але ў апошнія дні ўся справа раптам была заблутана ўмяшацельствам вялікіх дзяржаваў. Дзіўна, што ўсе гэтыя дзяржавы „каректна“ глядзелі на тое, як на палёх Манджурыі лілася ракой чалавечая кроў, і толькі тады, калі вайна фактычна скончылася і пачаліся ўжо перагаворы аб поўным зьліквідаваньні канфлікту, гэтыя дзяржавы ўспомнілі аб... „Трактаце Кэльлёга“ і ў калектыўнай (зборнай) ноце зьвярнуліся да Радаў і Кітаю з заклікам... спыніць вайну, забароненую гэтым Трактатам.

Першая выслала сваю ноту Амэрыка, перадаўшы яе Радаваму ўраду праз францускага пасла ў Маскве (бо-ж паміж Амэрыкай і Радамі няма яшчэ дагэтуль афіцыяльных зносінаў). На амэрыканскую ноту Радавы ўрад у той-жа дзень (3. XII.) даў адказ, заявіўшы, што не дапусьціць ніякага умяшацельства трэціх дзяржаваў у канфлікт свой з Кітаем, які хоча і можа зьліквідаваць толькі шляхам безпасрэдніх перагавораў. У канцы ноты ядавіта выражае зьдзіўленьне, што амэрыканскі ўрад, які—па сваей волі—яшчэ не знаходзіцца ў афіцыяльных адносінах з Радавым урадам, бярэ аднак-жа на сябе абавязак выступаць з парадамі і ўказаньнямі гэтаму ўраду.

Падобныя ноты быццам высланы ўжо і іншымі вялікімі дзяржавамі. Аднак-жа ў апошні мамэнт высьвятлілася, што Японія рашуча адмовілася ад учасьця ў калектыўным кроку вялікіх дзяржаваў. Трэба думаць, што гэтае становішча Японіі не асталося бяз уплыву на рашучы характар адказу на амэрыканскую ноту...

Як будуць рэагаваць вялікія дзяржавы — на чале з магутнай Амэрыкай—на гэты „афронт“ з боку Радавага ўраду, яшчэ ня відаць.

### У Англіі.

Работніцкі ўрад у Англіі, на чале з ведамым Мак-Дональдам, меў вялікія пасьпехі на „заграначным фроньце“,—бо-ж на канфэрэнцыі ў Гаазе, (на якой былыя пераможцы дзялілі паміж сабой спаганяныя з нямецкага народу так-званыя ваенныя адшкадаваньні) вытаргаваў у былых саюзнікаў вялікія карысьці для Англіі з гэтых „адшкадаваньняў“. Але, на жаль, ня можа пахваліцца такімі-ж пасьпехамі на фроньце ўнутранай палітыкі. Праўда, ураду Мак-Дональда і Сноўдэна ўдалося перавесьці праз парлямант палепшаны закон аб дзяржаўным забясьпечаньні для безработных, які павялічвае крэдыты на гэты выдатак з дзяржаўнага бюджэту на 12 з паловай мільён фунтаў (фунт—5 даляраў). Але гэты самы крыху палепшаны закон не разьвязывае страшэнна цяжкай для англійскай работніцкай клясы бяды безрабоцьця, якую Мак-Дональд, ідучы на выбарах галасамі работнікаў, абяцаўся ўрачыста радыкальна разьвязаць; гэты закон аб павялічэньні „засілкаў“ для безработных зьявіўся навет прычынай расколу ў партыі англійскіх сацыялістаў („Labour Party“). У партыі пачынаюць падымаць голас пратэсту больш радыкальныя групы з паслом Макстонам на чале. 3.XII мела адбыцца сабраньне павадыроў партыі англійскага пралетарыяту („Labour Party“), на якім меў адбыцца — ці то партыйны суд над гэтымі залішне левымі павадырамі — з выключэньнем іх з партыі—за залішне вострую крытыку „угодніцкай лініі“ работніцкай партыі, якая сталася ўрадовай партыяй, — ці то ўласная заява гэтых павадыроў — аб іх выхадзе з партыі.

Няменш клопату нарабіла атрымаўшай дзяржаўную ўладу ў краі партыі англійскіх „лябурыстаў“ іх спроба вырашыць другую, няменш цяжкую й важную для работнікаў-вуглякопаў, справу вугальную.

І тутака так-сама ўрад Мак-Дональда аказаўся ў вельмі цяжкім і клапатлівым палажэньні, — бо адно ён абяцаў работнікам у часе перадвыбарнай кампаніі ды казаў ў партыйнай праграме, а зусім нешта іншае аказалася магчымым для яго зрабіць у канкрэтных варунках рэальнага жыцьця, не ламаючы таго буржуазнага сацыяльнага ладу, на падставе непарушнасьці якога абедзьве буржуазныя партыі краю, маючыя разам больш паслоў у парлямэньце, чым „Labour Party“, дапусьцілі да ўлады Мак-Дональда з яго сьціпшэўшымі сацыяльна таварышамі.

На дзеле — з лёзунгу партыі аб нацыяналізацыі вугальных капальняў удалося зрэалізаваць нейкую дробязь: урад абяцаў вуглякопам зьменьшыць на паўгадзіны дзень працы ў нетрах зямлі —у шахтах. Але і гэта аказалася магчыма правесьці толькі ў паразуменьні з уласнікамі вугальных капальняў, якія ня ўсюды ў краі пайшлі на ўступкі. Гэтыя перагаворы ідуць яшчэ, але няма ніякай пэўнасьці, што дойдуць да рэзультату, пажаданага для работнікаў, ня гледзячы на пагрозу Мак-Дональда—правесьці гэтае дамаганьне законадаўчым шляхам. Вугальныя ўласьнікі і прамыслоўцы, якія маюць шмат сваіх паслоў у парлямэньце, ведаюць, што ў парлямэньце работніцкі ўрад большасьці ня мае, а трымае ўладу толькі з ласкі абедзьвых буржуазных партыяў: консэрватараў і лібэралаў...

Усё гэта, зразумела, добра разумеюць павадыры англійскай работніцкай партыі, разумеюць, што такая ўлада, такое іх урадаваньне можа толькі ўрэшце канчальна кампрамітаваць іх усіх у вачох работніцкай клясы, што, можа, і маюць на мэце буржуазныя партыі... Таму, трэба думаць, павадыры сучаснага ўраду — пры першым-жа выгадным выпадку—выкарыстаюць усе магчымасьці, каб зрабіць новыя выбары — у мэтах вярнуцца ў парлямэнт у большасьці, як поўна-ўладныя кіраўнікі палітыкі краю...

### Нямеччына.

У бягучыя дні ўся Нямеччына ахоплена барацьбой двух лагераў—у зьвязку з распачатай нацыяналістамі кампаніяй проці так-званага „пляну Юнга“, які быў прыняты дзяржавамі — крэдытарамі і нямецкім урадам — замест „пляну Доўса“, значна цяжэйшага для Нямеччыны. „Пляны“ гэтыя, як ведама, датычыць спагову і падзелу ваенных адшкадаваньняў.

Павадыр нямецкіх нацыяналістаў Гурэнбэрг унёс у парлямэнт законапраект ня толькі скіраваны проці прыняцьця Нямеччынай гэтага „Пляну Юнга“, але дамагаючыся цяжкіх караў для тых міністраў, якія яго падпісалі... Ведаючы, што ў парляманце законапраект гэты будзе напэўна правалены, нацыяналісты патрэбавалі, каб гэты законапраект быў пастаўлены на ўсенароднае галасаваньне, як гэта дазваляе нямецкая конституцыя — пры захаваньні ведамай працэдуры. З гэтай працэдуры, ці законнага ходу справы, выпоўнены ўжо: 1. Зборка подпісаў над законапраектам, даўшая патрэбную лічбу галасоў ($^{1}/_{10}$ усіх выбаршчыкаў краю) для таго, каб пусьціць яго далей; 2. разгляд законапраекту ў парляманьце. Парлямант вельмі значнай большасьцю галасоў адкінуў законапраект Гурэнбэрга, галасаваньне да таго ж аказалася для нацыяналістаў фатальным: соймавая фракцыя іх разьбілася, у рэзультаце каля 2 дзесяткаў паслоў маюць адкалоцца ад партыі і стварыць новую фракцыю ў парляманьце.

Але цяпер пасьля прадбачанага правалу законапраекту ў Рэйхстагу (парлямэньце) — наступае апошні акт усей працэдуры: т. зв. „рэфэрэндум“, ці перанясеньне законапраекту на ўсенароднае галасаваньне — плебісцыт, які мае адбыцца 22 сьнежня. На гэтым плебісцыце справа будзе вырашана простай большасьцю галасоў.

Можна сумлявацца, ці зьбяруць нацыяналісты патрэбную большасьць галасоў. Але ўся гэная авантура шмат ужо нарабіла шкоды нямецкай замежнай палітыцы, а перадусім — нямэцка-францускаму зблізжэньню. Перад усім кампанія нямецкіх нацыяналістаў проці „пляну Юнга“, скіраваная ў першую галаву проці Францыі, была спрытна выкарыстана—на шкоду Нямеччыны—францускімі нацыяналістымі і імпэрыялістамі, якія пад лёзунгам ваеннай пагрозы з боку Нямеччыны і магчымай адмовай яе ад сплаты адшкадаваньняў—распачалі барацьбу проці нарыхтаванага ўжо ў Францыі цэнтра-левага ўраду, дапамогшы гэтым дайсьці да ўлады цэнтра праваму габінэту, пазыцыю якога, такім чынам, моцна падтрымліваюць усьцяж нямецкія нацыяналісты сваей незьліквідаванай яшчэ пагрозай „пляну Юнга“.

Толькі дзякуючы мудрай палітыцы нямецкага ўраду і ўчасьцю ў францускім габінэце ведамага ініцыятара і прыхільніка рашучага зблізжэньня з Нямеччынай, міністра Брыяна, авантура нацыяналістаў не адбілася, як гэтым пагражала, рашучым затрыманьнем справы скасаваньня акупацыі Надрэніі. У першых днях сьнежня распачалося ачышчэньне „другога пасу“ акупаванага нямецкага абшару — англійскім, бэльгійскім і францускім войскамі і можна думаць, што ў бліжэйшыя дні ўся гэта зямля будзе свабодная. Ужо ў цэлым сьцягу местаў адбыліся ўрачыстасьці з прычыны звальненьня ад чужаземскіх войскаў, на якія адгукнулася ўся Нямеччына.

### Францыя.

У францускім парлямэнце ідзе разгляд бюджэту, апрацаванага новым урадам Тардье, які заступіў месца ўраду Брыяна.

Бюджэт гэты дае выраз таму надзвычайнаму ўзросту францускага дабрабыту — пасьпеху ў фінансава-гаспадарчай адбудове краю, які Францыя ў значнай меры заўдзячае геніяльным фінансава-арганізацыйным талентам свайго фінансіста, б. прэмьера Пуанкарэ, і... нямецкім адшкадаваньням. Дзякуючы ўсяму гэтаму, а яшчэ больш, зразумела, дзякуючы слаўнай працавітасьці і ашчаднасьці францускага народу, а такжа і... нізкай францускай валюце, Францыя перажывае запраўдны гаспадарчы росквіт.

Выразам гэтага росквіту, Францыі, як сказана, і зьяўляецца яе бюджэт на наступны год, які прадбачыць свабодны астатак у ліку пяць мільярдаў франкаў, якія ўрад запрапанаваў выдаць на рожныя капітальныя затраты агульна-карыснага для краю назначэньня.

Гэты нячувана багаты бюджэт, няменш, як нямецкія нацыяналісты, падмуроўвае цэнтра-правы ўрад у Францыі, распаляючы аднак-жа і страшэнны апэтыт да ўлады з боку апазыцыйных партыяў лявіцы, якая хацела б, зразумела, сама кіраваць выдаваньнем гэтых вялізарных сумаў, паводле бюджэту. Дзеля таго ў часе бюджэтных спрэчак усьцяж узьнімаюцца канфлікты паміж урадам і апазыцыяй, якія дагэтуль аднак-жа заўсёды канчаліся перамогай ураду, даючы яму сталую, досьць значную большасьць у парляманьце.

### Бэльгія.

Цікаўныя падзеі здарыліся ў апошнія дні ў Бэльгіі, выклікаўшы ў ёй рэптам урадовы крызіс.

